

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№15(131)

1 кастрычніка 2014 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# БЫЛАЯ ПРЫЁМНАЯ МАЦІ ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ Ў ЛУКАШЭНКІ

***Магілёўскі абласны суд усумніўся ў правамернасці рашэння Клімавіцкага раённага суду, які пакараў сына былой маці-выхавацелькі Ірыны Моцнай Віталя буйным штрафам за нібыта абразу міліцыянта. Як паведаміла Радыё Свабода, раённы суд мусіць паўторна разгледзець справу 19-гадовага хлопца. Ірына Моцная настойвае, што яе сын ня мог абразіць супрацоўніка міліцыі, а сам міліцыянт, калі прыйшоў да іх у дом, паводзіў сябе з выклікам.***



Да 12 ліпеня 2014 году сям'я Моцных гадавала прыёмных дзяцей. Пасля расфармавання прытулку Ірына Моцная адмаўлялася аддаваць прыёмную дзятву, спасылаючыся на адсутнасць аргументацыі з боку раённага аддзелу адукацыі пра прычыны такога рашэння і на клопат пра псіхалагічны стан дзяцей. Забраць дзяцей спрабавалі з дапамогай міліцыі. Падчас адной з такіх спробаў, як заяўляюць міліцыянты, Віталь Моцны пачаў іх абражаць.

«Клімавіцкі суд прызнаў Віталя вінаватым, і даў яму 3 млн. 750 тыс. руб. штрафу за тое, што ён назваў міліцыянта нібыта „маральным уродам". Сын настойвае, што гэтага не казаў», — заяўляе Ірына Моцная.

Падчас міліцэйскага візіту самой жанчыны не было дома. У двары былі толькі дзецi. З матэрыялаў справы вынікае, што Віталь Моцны размаўляў з супрацоўнікам міліцыі Дзянісам Герасімавым груба. Праз месяц пасля падзеяў міліцыянт звярнуўся з пазовам у суд, абвінаваціўшы хлопца ў абразе пры выкананні службовых абавязкаў.

Прыёмных дзяцей з сям'і Моцных усё ж забралі. Тое, як гэта адбылося, атрымала шырокі грамадскі розгалас. Пазней Клімавіцкі суд пакараў Ірыну Моцную штрафам у 750 тыс. руб. за самаўпраўства. Паводле выраку, яна незаконна ўтрымлівала прыёмных дзяцей, калі аддзел адукацыі Клімавіцкага райвыканкаму ўжо звольніў яе з пасады выхавацелькі.

Вядома, што супраць Ірыны Моцнай распачата і крымінальная справа. Яе вінавацяць у збіцці прыёмных дзяцей. 24 верасня ў межах расследавання гэтай справы ў Моцнай правялі ператрус, забралі камп'ютэр:

«Паказалі мне санкцыю пракурора. На рукі яе не далі. Аргументавалі тым, што ў камп'ютары ёсць перапіска дзяцей. Казалі, што нібыта крымінальная справа супраць мяне распачата і яны маюць права забраць камп'ютэр. Як толькі я раблю нейкі крок, каб абараніць сябе, тут жа ідзе дзеянне ў адказ. Я цяпер баюся, каб яны ў камп'ютэр чаго не „закінулі" супраць мяне кампраметуючага», — выказваецца Ірына Моцная.

Днямі Ірына Моцная звярнуся да Аляксандра Лукашэнкі з адкрытым лістом.

«Я мяркую, — кажа жанчына, — што да яго не даходзіць уся інфармацыя пра тое, што адбываецца ў Клімавічах. Тут усё павязана. Няхай я, згодная, у нечым памылялася. Але так не бывае, што вінаватая толькі я, а чыноўнікі ні пры чым».

Сям'я Моцных апекавалася шасцю прыёмнымі дзецьмі. Жыла яна ад 2008 году ў катэджы, збудаваным паводле прэзідэнцкай праграмы «Дзеці Беларусі». Як кажа Моцная, стварыць прытулак, які стаў першым у раёне, прапанавалі ёй самі чыноўнікі. Праблемаў з выхаваннем прыёмнай дзятвы, цвердзіць Ірына Моцная, у яе не было. З'явіліся яны, калі муж скончыў жыццё самагубствам. Да гэтага яна скардзілася памочніку прэзідэнта, што мясцовае чынавенства не дапамагае прытулку ў вырашэнні гаспадарчых праблемаў. Канфлікт з аддзелам адукацыі яна звязвае з гэтай скаргай.

Паводле беларускага заканадаўства, калі паміраe адзін з карміцеляў, дзіцячы дом сямейнага тыпу расфармоўваецца. У выпадку з Моцнай у загадзе аб скасаванні з ёй працоўных адносінаў названая яшчэ адна прычына — «амаральны ўчынак, несумяшчальны з выкананнем абавязкаў выхавацелькі». Ад 12 ліпеня, калі Моцная даведалася пра рашэнне аб расфармаванні прытулку, яна, як сама сцвярджае, намагалася даведацца, што такога яна зрабіла. Пазней высветлілася, што на яе напісала скаргу бабуля дзвюх яе гадаванак. Ці ёсць доказы віны Моцнай, невядома.



# БЕСПЕРСПЕКТЫЎНАЯ ВЁСКА

## (Палітыка “узбуйнення вёскі” на прыкладзе Клімавіцкага раёна)

Алесь ЛАПО

***За першыя дзесяцігоддзі бальшавіцкай улады праз мэтанакіраваную палітыку, якая часам прымала крывавыя формы, быў цалкам вынішчаны як “нядобранадзейны” слой вясковых гаспадароў. Суцэльная калектывізацыя, “палачкі” замест заробку, немагчымасць выехаць з вёскі — улада зрабіла ўсё неабходнае, каб аднавіць прыгоннае права. І гэта атрымалася, аднак гаспадарчага плёну не дало. Каб выправіць сітуацыю і аднавіць эфектыўнасць работы сельскай гаспадаркі, улады звярталіся да розных метадаў – адным з іх быў план “узбуйненне вёскі”. Эфектыўнасць дадзенай палітыкі прапануецца ацаніць на прыкладзе Клімавіцкага раёна.***




У 1965 годзе ў БССР была створана асобнае міністэрства, якому на той час не было аналагаў у іншых савецкіх рэспубліках — Міністэрства сельскага будаўніцтва. Менавіта на плечы дадзенага органа дзяржкіравання лягло пытанне “узбуйненне вёскі”.

Усяго на тэрыторыі БССР на той час налічвалася 34 тыс. вёсак і хутароў. Пакінуць планавалася толькі 5,5 тыс., якія залічылі ў “перспектыўныя” (такім чынам, права на існаванне мела толькі кожная шостая вёска!), у Клімавіцкім раёне колькасць вясковых паселішчаў прапаноўвалася зменшыць амаль у 4 разы, з 203 да 56. У неперспектыўных вёсках забаранялася капітальнае будаўніцтва, а іх жыхароў планавалася перасяліць у перспектыўныя. Рэалізаваць план меркавалася за 25 гадоў.

Што атрымалася ажыццявіць за гэты час? Палітыка правалілася, асабліва што датычыць “узбуйнення” перспектыўных вёсак (знішчыць некалькі дзясяткаў “неперспектыўных” – удалося). З 1969 па 1994 гг. колькасць вясковага насельніцтва ў раёне паменшылася ў два разы (з 36,4 тыс. чалавек да 19 тыс.), вёсак стала на 41 менш (планавалася знішчыць 147!). Штогод знікала дзве вёскі, аднак насельніцтва перспектыўных вёсак так і не вырасла.

Не ўдалося выправіць сітуацыю з вясковым насельніцтвам Клімавіцкага раёна і ў гады незалежнасці. За 1994-2009 насельніцтва вёскі паменшылася яшчэ на 40% (з 19 тысяч да 11,5 тысяч чалавек), а вёсак стала яшчэ на 21 менш.

За 50 гадоў, што аддзяляюць нас ад пачатку палітыкі “ўзбуйнення вёскі”, Клімавіцкі раён пабяднеў на 62 паселішчы. Зніклі нават некаторыя “перспектыўныя вёскі”: Міхалін стаў часткай горада, Савінічы і Гразівец сталі ахвярай Чарнобыльскай катастрофы. Яшчэ два дзесяткі былых “перспектыўных” зараз знаходзяцца на мяжы знікнення. Прывядзём іх спіс і дынаміку колькасці насельніцтва з 1994 г. па 2009 г. (табліца 1).

Аднак ёсць і адваротныя вынікі. Некаторыя вёскі, запісаныя ў “неперспектыўныя”, здолелі не толькі выжыць, насуперак савецкай палітыцы, але і стацьаднымі з буйнейшых у раёне (табліца 2). Як прыклад, на сёння трэцяя вёска па насельніцтву ў раёне — Барсукі. Аднак, на жаль, такія вёскі — адзінкавыя, а колькасць насельніцтва ў іх таксама паступова памяншаецца.

Хочацца верыць, што калі-небудзь удасца спыніць працэс знікнення вёсак. Аднак для гэтага варта паспрыяць аднаўленню гаспадара на вёсцы, слоя сялянства, якое было вынішчана напачатку 1930-х.

ТАБЛІЦА 1.

| Вёскі | Насельніцтва 1994 г. | Насельніцтва 2009 г. |
|---|---|---|
| Аўтухоўка | 38 | 15 |
| Васільеўка | 48 | 9 |
| Васькоўка | 23 | 7 |
| Заходы | 11 | 5 |
| Іванаўск | 61 | 21 |
| Куляшоўка | 50 | 7 |
| Лядзешня | 68 | 10 |
| Мядведаўка | 67 | 14 |
| Незнань | 89 | 21 |
| Рысін | 103 | 21 |
| Селішча (Галіцкі с/с) | 105 | 20 |
| Сямёнаўка (Радзянскі с/с) | 63 | 17 |
| Сямёнаўка (Цімнаўскі с/с) | 26 | 8 |

ТАБЛІЦА 2

| Вёскі | Насельніцтва 1994 г. | Насельніцтва 2009 г. |
|---|---|---|
| Барсукі | 945 | 739 |
| Собалеўка (Радзянскі с/с) | 292 | 173 |
| Хацень | 470 | 412 |





# УРОЖАЙ-2014 РАДУЕТ, НО БУДЕМ ОБЪЕКТИВНЫ В ЕГО ОЦЕНКАХ

Александр ВЛАД

***Уборочная в этом году побила все мыслимые и немыслимые рекорды. К примеру, хлеборобы Белыничского района собрали зерновых больше прошлогоднего на 42%. Разница настолько велика, что поневоле задумываешься, почему год назад намолотили почти наполовину меньше? Есть вопросы и к другим регионам страны.***

В Климовичском районе каравай-2014 получился более чем весомым. Местная районка «Родная ніва» сообщила, что в ходе уборочной намолочено 56892 тонны зерна. Это на порядок больше, чем в прошлом году (в 2013 году намолотили 48830 тонн зерна).

Не умаляя успехов климовичских аграриев, вместе с тем, хотим напомнить, что в 2012 году они достигли даже несколько больших высот. Вот что писала тогда районная газета: «На 1 октября 2012 г. в организациях района, осуществляющих сельскохозяйственную деятельность, завершена уборка зерновых колосовых культур, рапса. Намолочена 57841 тонна зерна». Так что говорить о неких необычных достижениях нынешнего года не стоит, хотя результаты, повторим, очень и очень неплохие. Особенно в сравнении с предыдущими годами, когда бывали урожаи от 39 до 48 тысяч тонн. Впрочем, если копнуть ещё глубже, то можно вспомнить, как в далёком уже 1990 году сельхозорганизациями района был достигнут валовой сбор зерновых и зернобобовых культур в размере 55,4 тыс. тонн. Понятно, что в советские времена на селе было больше рабочих рук, но зато и сельхозтехника тогда отставала по всем параметрам от современной. Так что, как говорится, всё познаётся в сравнении.

Укажем ещё на одно немаловажное обстоятельство. В победных реляциях, заполонивших государственные СМИ, обычно озвучиваются первоначальные данные намолотов. Это цифры, как шутят сами аграрии, до усушки и утруски собранного урожая. К примеру, в 2012 году в Климовичском районе было намолочено 57,8 тыс. тонн зерновых и зернобобовых культур при урожайности 31,4 ц/га. Об этом осенью 2012-го официально передавали местные средства массовой информации. А позднее Национальный статистический комитет РБ дал уточнённые данные. Согласно этим сведениям районные сельхозорганизации произвели 49,7 тыс. тонн при урожайности 26,6 ц/га. Думается, что аналогичное «занижение» результатов следует ожидать и при подведении итогов уборочной нынешнего года. Подобные расчёты и сопоставления необходимо иметь в виду, чтобы получить объективную картину развития белорусского АПК как на региональном уровне, так и в целом по стране.




# КОГДА ПРОСТОТА ХУЖЕ ВОРОВСТВА

Елена ПОЛЯКОВА

***Интересную информацию подготовил для всеобщего ознакомления Отдел идеологической работы, культуры и по делам молодёжи Климовичского райисполкома. Из информационного выпуска за сентябрь месяц (раздел «Предупреждение краж государственного имущества в сфере АПК») можно узнать поразительные примеры бесхозяйственности и разгильдяйства в Климовичском районе.***

Так, проведённый анализ краж на объектах АПК Климовичского района показывает, что за последние 6 лет совершено 24 кражи скота из мест его содержания. Из подсобного хозяйства ОАО «Климовичский ЛВЗ» совершено 2 кражи, ОАО «Милославичский» — 3, филиал «Нива-Агро» — 3, филиал «Приграничный» — 3. Больше всего криминальных эпизодов отмечено в ОАО «Климовичирайагропромтехснаб» — 7 краж.

В прошлом году в Климовичский РОВД поступило 10 обращений от государственных и частных владельцев лошадей и крупнорогатого скота по факту хищения принадлежащего им вышеуказанного имущества. В текущем году в РОВД имеется 5 аналогичных сообщений. Проверки, проведённые по факту поданных заявлений, выявили, что в некоторых случаях имели место бесхозяйственность и разгильдяйство.

Например, было вынесено решение об отказе в возбуждении уголовного дела ввиду отсутствия состава преступления по следующему факту — сообщение об отсутствии на молочно-товарной ферме в деревне Хотень 5 голов крупнорогатого скота. По результатам проведённой проверки внесено представление, в котором указана причина отсутствия скота — ненадлежащая организация системы учёта.

В ряде других случаев совершению преступлений, связанных с хищением госимущества на объектах АПК, в том числе скота, способствовали следующие условия. Ненадлежащая работа сторожевой охраны (сон во время работы, нахождение на рабочем месте в состоянии алкогольного опьянения, отсутствие сторожевой охраны), свободный доступ к местам содержания скота (отсутствие ограждения территории ферм, открытые двери на территорию ферм в ночное время суток), отсутствие должного контроля за количеством содержащегося скота.



# ЧАМУ ТАК НЕ ШЧАСЦІЦЬ КРАСНАПОЛЬШЧЫНЕ?

**Рыгор КАСТУСЁЎ, намеснік старшыні Партыі БНФ**

***У сярэдзіне верасня 2014 года мне ў чарговы раз прыйшлося пабываць у Краснапольскім раёне. Кожны раз, наведваючы Краснапольшчыну, я зноўку і зноўку пераконваюся, што тут жывуць вельмі ветлівыя і добразычлівыя людзі. Вось і на гэты раз, ці калі я заходзіў на тэрыторыю машыннага двара, фермы ААТ "Краснапольскі" у гарадскім пасёлку або ў вёсках, ці ў будынкі Краснапольскага райвыканкама і раённага Упраўлення па сельскай гаспадарцы, амаль усюды я чуў ад людзей пытанні, накшталт: "Што вам падказаць?", "Чым вам дапамагчы?".***



Нягледзячы на Чарнобыльскую трагедыю, калі з Краснапольшчыны з'ехалі тысячы людзей, а ў раёне былі зачынены дзясяткі прадпрыемстваў, тыя, хто застаўся, змаглі наладзіць жыццё ў сваім родным краі. І ў дадзеным выпадку рэспубліканскім, абласным, раённым уладам для стварэння прыстойнага ўзроўню жыцця ў дадзеным рэгіёне толькі і заставалася крыху падтрымаць людзей, дапамагчы ім у наладжванні вытворчасці і не перашкаджаць там, дзе вытворчыя працэсы былі адладжаны на належным узроўні.

Але ж, як гэта часта бывае, у беларукіх чыноўнікаў проста рукі чэшуцца,каб "паэксперыментаваць" і такім чынам паказаць свае "здольнасці" да рэфармавання розных галін эканомікі краіны. На тэмах рэфармавання некаторыя прадстаўнікі чынавенства з вышэйшых эшалонаў улады нават абаранілі кандыдацкія і доктарскія дысертацыі.

Так было і ў сельскай гаспадарцы краіны, калі пад выглядам рэформаў усярэдзіне 2000-х гадоў былі распачаты працэсы зліцця ў адну па некалькі гаспадарак розных форм уласнасці. Сярод рэгіёнаў нават было распачата негалоснае спаборніцтва — хто ў дадзенай "рэформе" атрымае найбольшыя дасягненні.

Наперадзе ўсіх апынулася Магілёўшчына. Тут пайшлі па прынцыпу: "Аб'ядноўваць, дык аб'ядноўваць". І, напрыклад, у Краснапольскім раёне пад выглядам рэформаў у 2008 годзе злілі ў адну кучу ўсе існуючыя на той момант сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, аб'яднаўшы іх у адну гаспадарку — Унітарнае камунальнае сельскагаспадарчае прадпрыемства "Краснапольскі".

Як праходзілі працэсы аб'яднання, як ламаліся межы гаспадарак і лёсы людзей — гэта асобная гісторыя.

Але ўжо ў першы год існавання УКСП "Краснапольскі" было бачна, што эксперымент правальваецца. Што абяцанні тагачаснага старшыні райвыканкама Аляксандра Ветошкіна аб павелічэнні заробкаў сялян, аб росце ўраджаю, прывесаў і надояў малака, аб рэфармаванні сістэмы мясцовай улады (скарачэнне апарату Упраўлення сельскай гаспадаркай раёна) не спраўджваюцца.

У першы год эксперыменту толькі з-за пагаршэння якасці здадзенага на малаказавод малака гаспадарка згубіла фінансавыя сродкі, перавысіўшыя гадавы фонд заработнай платы.

У аб'яднанай гаспадарцы пачалі зніжацца паказчыкі вытворчасці. Напрыклад, надоі малака на адну карову ў раёне знізіліся да 2,3 тыс. літраў (і тое з прыпіскамі).

І, як след, сяло пачалі масава пакідаць людзі. Падобнага эксперымента над сабой не вытрымалі нават тыя, хто застаўся пасля Чарнобыльскай трагедыі. У сярэднім, з аб'яднанай гаспадаркі звальняюцца каля 100 чалавек у год. Да аб'яднання, толькі ў адным сельскагаспадарчым вытворчым кааператыве "Краснапольскі" налічвалася каля 800 працаўнікоў. Зараз жа ў аб'яднанай гаспадарцы ААТ "Краснапольскі" (гаспадарка пераіменавана ў адкрытае акцыянернае таварыства) працуе ўсяго толькі 450 чалавек.

Не далі належнага эфекту і мільярдныя фінансавыя ўліванні ў сельскую гаспадарку раёна з бюджэту.

Краснапольскі эксперымент цягнецца ўжо шэсць год. Мінскія, магілёўскія, краснапольскія чыноўнікі, разумеючы, што з аб'яднаннем сельгаспрадпрыемстваў раёна ў адно сатварылі, мякка кажучы, дурасць, не прымаюць ніякіх мераў па ліквідацыі няўдалага эксперыменту.

Як мне распавялі некаторыя працаўнікі "Краснапольскага", у іх былі вялікія спадзяванні, што ў сітуацыю ўмяшаецца вышэйшае кіраўніцтва краіны пасля публікацый аб іх гаротным стане ў газеце "Советская Белоруссия" у 2012 і 2013 гг. Але і тут справа з мёртвай кропкі не зрушылася.

Каб зразумець, у якім стане знаходзіцца ААТ "Краснапольскі", дастаткова зайсці ў цэнтральны офіс гаспадаркі, што знаходзіцца на вул.Антонава,16. Прама на ўваходзе для любога наведвальніка існуе пагроза праваліцца ў дзірку ў падлозе калідора.

А што сабой уяўляюць вытворчыя аб'екты, можна пабачыць тут жа недалёка ад офіса, у тым месцы, дзе размешчаны машынны двор і жывёлагадоўчая ферма, на якой гной ад буйной рагатай жывёлы выдаляўся ўручную праз вонныя праёмы прама на зямлю пад сцены будынка. А сам будынак выглядае проста жахліва.

Не лепшым чынам выглядаюць вытворчыя аб'екты былых самастойных гаспадарак. Нажаль, шматлікія машынныя двары, зернесушыльныя комплексы, фермы, іншыя аб'екты з-за "непатрэбнасці" даўно не эксплуатуюцца і практычна разрабаваны. А тое, што яшчэ "патрэбна" кіраўніцтву раёна і гаспадаркі,

эксплуатуецца абыякава. Як, напрыклад, комплекс у вёсцы Леніна, дзе даўно адсутнічаў бульдозер для выдалення гною, і буйная рагатая жывела, як выказаўся адзін з жывёлаводаў, "па калена ў гаўне".

Як адбілася недарэчнасць краснапольскага эксперыменту на стане вёскі можна яскрава назіраць на прыкладзе вёскі Горы, калісьці цэнтральнай сядзібы паспяховай гаспадаркі, адкуль зараз імкліва збягаюць людзі. Праехаўшы па цэнтральнай вуліцы вёскі можна заўважыць цэлы шэраг пустуючых, калісьці дабротных, дамоў, дзе раней жылі калгаснікі. Да праводзімых сёлета ў гэтай вёсцы раённых "Дажынак" ваконныя праёмы пустуючых дамоў зашылі шчытамі, падфарбавалі, чым надалі выгляд сапраўднай "пацёмкінскай вёскі". Як выказаўся адзін з былых галоўных спецыялістаў гаспадаркі, зараз тут застаюцца жыць і працаваць толькі тыя, каму дзявацца няма куды, або трэба дапрацаваць год-два да пенсіі. Бо пенсія ў перспектыве чакаецца большая, чым аклад спецыяліста з вышэйшай адукацыяй у памеры 1,6 мільёна рублёў...

За гады эксперымента паказчыкі Краснапольскага раёну па вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі знізіліся ў 1,3-1,5 разы. І гэта пры тым, што ў пагоні за паказчыкамі кіраўніцтва раёна і прадпрыемства нярэдка прыбягаюць да распрацоўкі і засявання збожжавымі культурамі земляў, выведзеных з севазварота з-за забруджвання радыёнуклідамі. Чыноўнікі не звяртаюць увагу на тое, што атрыманая на забруджаных землях прадукцыя нясе небяспеку ўсім грамадзянам нашай краіны.

Пры сустрэчах з вуснаў краснапольцаў гучалі адны і тыя ж рытарычныя пытанні: "Што надалей будзе з Краснапольскім раёнам, што надалей будзе з намі? Колькі яшчэ будзе працягвацца гэты эксперымент над людзьмі?".

Пакуль што людзі на працягу шасці год не змаглі атрымаць адказу на гэтыя свае пытанні ні ад чыноўнікаў рознага рангу, ні ад праўладных сродкаў масавай інфармацыі .

Ім толькі і застаецца — шукаць "шчасця" ў іншым месцы.

# ВЫТЯНУТ ЛИ ПУТИНСКИЕ САНКЦИИ БЕЛОРУССКОЕ СЕЛО ИЗ КРИЗИСА?

**Геннадий КОСАРЕВ, zautra.by**

***Глубина дотаций белорусского сельского хозяйства достигает 49%, но власти прогнозируют его выход на самоокупаемость. В том числе и за счёт увеличения поставок в Россию. Но сколько реально могут заработать белорусские производители на российских санкциях?***




Сельское хозяйство Беларуси в состоянии выйти на самоокупаемость, что позволит государству финансировать лишь перспективные проекты, заявил Александр Лукашенко во время недавней поездки по Гродненской области.

Премьер-министр Михаил Мясникович рассчитывает, что в денежном выражении объёмы продаж на российском рынке продовольственных товаров в августе-декабре будут увеличены в полтора раза по сравнению с прошлым годом. В основном за счёт молочных продуктов.

— И без того Беларусь экспортировала очень много – половину молочных продуктов, третью часть говядины, — отмечает экономист Леонид Злотников.

По приблизительным подсчётам, поставки могут быть увеличены на 40-50%, в том числе сыров — на 40 тыс. тонн, мясных полуфабрикатов — на 15-40%, овощей — до 40%, картофеля — в два раза. Беларусь также сможет поставлять в Россию переработанную продукцию из европейского сырья.

Премьер-министр уверен, что белорусским производителям представилась отличная возможность заработать на российском рынке.

— Мне кажется, что источники эффективного производства уже используются, а если что-то будет делаться дополнительно, то вряд ли это будет так эффективнее, — оценивает надежды премьера Леонид Злотников.

При увеличении производства будут расти и затраты, уверен экономист.

— По «молочке» просто так дополнительного сырья не произведёшь. Производство молока, как и отдачи по инвестициям, в последний год падали, поэтому сразу разогнаться очень трудно. Производство говядины в Беларуси, как правило, убыточно. Что касается свинины, то её белорусы будут покупать в Польше, перерабатывать, производить колбасу и перевозить дальше. Вот, за счёт свинины дополнительный доход может быть. Хотя не такой уж и большой, — считает Леонид Злотников.

По словам Михаила Мясниковича, по продажам продовольствия на российский рынок Беларусь за указанный период выйдет с плюсом примерно в 200-300 млн долларов.

Но по оценке независимого экономиста, «озолотиться» на кризисе в отношениях между Россией и Украиной за счет поставок в Россию сельскохозяйственной продукции у белорусских производителей не получится. Выиграть Беларусь сможет только в том случае, если в России поднимутся цены на продовольствие.

В России белорусская сельхозпродукция, включая и «молочку», уже давно стоит дешевле, чем в Беларуси.

— Убытки производителей покрываются субсидиями сельскому хозяйству. В Беларуси 60-70% сельхозпредприятий убыточные, и это без учёта государственных субсидий. Так что всё это покрывается субсидиями, за счёт налогов, других отраслей, конечного белорусского потребителя, — резюмирует Леонид Злотников.



# ЧЕМ ГРОЗИТ БЕЛАРУСИ НЕВЫПОЛНЕНИЕ РЕШЕНИЙ КОМИТЕТА ООН ПО ПРАВАМ ЧЕЛОВЕКА?

**Геннадий КОСАРЕВ, zautra.by**

***Руководитель юридической комиссии Белорусского Хельсинского комитета Гарри Погоняйло — о том, как белорусы защищают свои права в международных органах, и как реагируют на это органы власти.***




В Комитет ООН по правам человека (КПЧ) направлена жалоба политзаключенного, активиста «Молодого фронта» Эдуарда Лобова. Как сообщает правозащитный центр «Вясна», в жалобе приводятся доказательства нарушения Республикой Беларусь в лице правоохранительных и судебных органов при задержании, аресте и рассмотрении уголовного дела молодёжного активиста.

Это уже третья жалоба фигурантов дела «о массовых беспорядках» 19 декабря 2010 года, подготовленная в КПЧ юристами «Белорусского документационного центра».

Как отмечает Гарри Погоняйло, на практике ни одно решение Комитета по правам человека не исполнено белорусскими властями.

Эксперт напоминает о том, что статьей 61 Конституции РБ гарантировано право граждан обращаться в международные органы в случае, если граждане считают, что их права нарушены, и они прошли все ступени защиты прав, предусмотренные нашим законодательством, в частности, через суды.

— Республика Беларусь не хочет сотрудничать с признанным во всем мире органом, который создан согласно Пакту о гражданских и политических правах. В 1992 году РБ ратифицировала факультативный протокол к Пакту и таким образом распространила юрисдикцию Комитета на всех граждан страны.

Игнорируя решения Комитета по правам человека, белорусские власти нарушают систему договоров РБ, а также Женевскую конвенцию, в соответствии с которой страна обязана выполнять договор и не может ссылаться на свое внутреннее законодательство и обстоятельства для невыполнения международных договоров.

Невыполнение решений Комитета ООН по правам человека не проходит бесследно, говорит Гарри Погоняйло.

— Есть механизмы реагирования на эту ситуацию. Специальная служба при комиссаре ООН по правам человека в ежегодном докладе информирует Генерального секретаря ООН о неисполнении тех или иных решений отдельными странами, в том числе и Беларусью.

Эти сведения затем представляются на сессии Генеральной ассамблеи, и Беларусь подвергается критике. Это моральное осуждение тоже имеет определенное значение. Страна, по существу, находится среди изгоев, и такое положение не может быть долго терпимым.

И ООН, и те страны, которые критикуют Республику Беларусь, найдут способы воздействия — политические, экономические. Уже сейчас многие позиции, связанные с экономикой, не решаются, потому что не решаются проблемы с обеспечением гарантированных нашей Конституцией и международными обязательствами прав человека, — заключает собеседник.

## ПОСЛЕ ОБРАЩЕНИЯ БЕЛОРУСКИ В КОНСТИТУЦИОННЫЙ СУД В ЗАКОНЕ ПРОПИШУТ ПОНЯТИЕ «ОДИНОКАЯ МАТЬ»

***Производство по делу было возбуждено Конституционным судом на основании обращения гражданки Геращенко В.М., в котором она указала, что Трудовой кодекс Беларуси устанавливает гарантии для одиноких матерей, но не содержит самого определения понятия «одинокая мать». Из-за этого женщина, воспитывающая несовершеннолетних детей без участия их отца, была необоснованно лишена трудовых гарантий, сообщает сайт Конституционного суда.***

В соответствии со статьей 268 Трудового кодекса Беларуси запрещено отказывать в заключении трудового договора и снижать заработную плату одиноким матерям по мотивам, связанным с наличием ребенка в возрасте до 14 лет (ребенка-инвалида - до 18 лет). Также не допускается расторжение трудового договора по инициативе нанимателя с одинокими матерями, имеющими детей в возрасте от 3 до 14 лет (детей-инвалидов до 18 лет), кроме установленных в ТК случаев.

Однако в кодексе и иных законодательных актах не установлены критерии по определению статуса одинокой матери в целях распространения на них гарантий при заключении и прекращении трудового договора, говорится в сообщении.

В итоге 18 сентября Конституционный суд признал необходимым «устранение законодателем правовой неопределенности в Трудовом кодексе Республики Беларусь».

Совету Министров Республики Беларусь предложено подготовить соответствующий проект закона о дополнении ТК нормой, определяющей круг лиц, относящихся к одиноким матерям, после чего внести его в установленном порядке в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь.

* материал портала TUT.BY

# ПАВЕТРА — З ПЫЛАМ ЦЭМЕНТУ, А ВЯСКОВЫЯ КАЛОДЗЕЖЫ — БЕЗ ВАДЫ

***26 верасня Крычаўскі раён наведала вялікая група сяброў Беларускай асацыяцыі журналістаў. Крычаўскі прэс-тур журналісты прысвяцілі знаёмству з мясцовымі цэментнымі заводамі і навакольным асяроддзем. У Крычаўскім раёне два цэментныя заводы. Дзеля патрэбаў іх вытворчасці распрацаваныя некалькі кар'ераў. Як ужываюцца жыхары навакольных вёсак з інфраструктураю гэтай вытворчасці? Ці задаволеныя такім жыццём? Чытайце рэпартаж, які падрыхтавала Радыё Свабода.***

### *У КАЛОДЗЕЖАХ ЗНІКАЕ ВАДА*

З чыгуначнай станцыі Міхеевічы новы цэментны завод выглядае эфектна. Высокія вежы, пафарбаваныя ў сіні колер, і чысціня навокал. Рэдкі пасажыр цягніка не зірне на жалезныя будыніны. Завод узводзілі за кітайскія грошы з выкарыстаннем кітайскіх тэхналогіяў ды пры ўдзеле кітайскіх спецыялістаў. Будоўля то спынялася, то аднаўлялася. Абяцанага прыбытку ад заводу няма. Афіцыйныя крыніцы прызнаюць, што прадукцыю завод цалкам збыць ня можа. Вытворчасць працуе са стратамі.

Церпяць ад працы заводу і жыхары навакольных вёсак. Жыхары Міхеевічаў апавядаюць, што навокал багата сыравіны для цэменту. Для новага заводу распрацавалі новы кар'ер. Разам з рудой паволі знікае ў мясцовых калодзежах і вада.

«Што панізіўся ўзровень вады, то ёсць такое», — прызнае жыхар Міхеевіч: «Адзін кар'ер выкапалі, цяпер другі кар'ер, — кажа вясковец. — Калі пачнуць паглыбляцца, то яшчэ панізіцца, а то і зусім зьнікне вада з нашых калодзежаў».

Міхеевічы — вёска вялікая: дзвесце жыхароў. Водаправоду няма. «Але абяцалі неўзабаве правесці», — хітравата ўсміхаючыся, кажучь вяскоўцы. Новы завод не прынёс добрых пераменаў у іхняе жыццё. Пра яго апавядаюць панура ды прыгнечана:

«Мы ўжо век свой дажываем. Улада наша на нас слаба ўвагі звяртае. Як кажуць, мы ўжо і звыкліся. Каму цяпер скардзіцца? Зямлю нашу калгасную забралі. Ніхто на ёй нічога ня сее. Пустуе. Ад дарогі метраў дзвесце пасеюць для паказухі. А далей — перакаці-поле. Наш прэзідэнт тады, калі быў на заводзе, дык абяцаў заняцца ўсходам, але нешта ён не займаецца ім. Маўчыць», — наракае на жыццё вясковец сталага веку.

Паводле жыхара Міхеевічаў, цэментны завод збіраліся ўзвесці ў наваколлі яшчэ за савецкім часам, але тады мясцовая ўлада і людзі ўзняліся супраць такіх намераў. Новая вытворчасць, кажа сурразмоўца, магла давесці багаты тутэйшы саўгас да банкруцтва, бо шмат людзей пайшла б працаваць на завод:

«Саўгас быў багаты. Даваў 700–800 тон мяса ў год. Малака шмат даваў. У нас быў спіртзавод, вінцэх. Цяпер нічога няма, нават жывёлы няма. І мы тут жывём нікому не патрэбныя».

У суседняй вёсцы, якая завецца Каменкай, сітуацыя яшчэ горшая. Вады тут у калодзежах зусім няма.

«Цяпер паглыбілі кар'еры, яна і сыходзіць. Ваду нам цяпер возяць у піўной бочцы два разы на тыдзень, — кажа жыхар Каменкі. — Бяруць яе з цэмзаводу ў Крычаве. Але ж калі была свая вада, то было лепей. Калодзеж жа ёсць калодзеж. Ня трэба чакаць. Пайшоў ды набраў».

### *«АДРАЗУ АДЧУВАЕЦЦА ПЫЛ»*

Да пылу з старога цэментна-шыфернага заводу, а цяпер і новага, тутэйшае насельніцтва прызвычаілася. За шкоду яго ня лічыць. Пры гэтым людзі адзначаюць, што мусяць доўга адмываць рэчы, пакінутыя надоўга ў двары.

Запрошаны на прэс-тур эксперт найперш звяртае ўвагу на шкодныя выкіды цэментнай вытворчасці. Спасылаецца на выніку афіцыйных доследаў, якія ня выявілі, як ён кажа, істотнага росту хваробаў у жыхароў Крычаўскага раёну ад пылу. Тым ня менш адзначае, што праблема існуе:

«Пыл жа ўдыхаецца ў арганізм, і, зразумела, гэты фактар аказвае ўплыў на здароўе. Акрамя таго, людзі знаходзяцца ў пыле пастаянна. Адзежу пастаянна трэба мыць, а сушыць як яе ў пыле? Таму і на бытавыя ўмовы таксама пыл уздзейнічае, як і на здароўе».

Прызнаў эксперт і праблемы з забеспячэннем вадой у вёсках, што паблізу ад цэмзаводаў. У некаторых, паводле яго, водаправод быў, але за доўгія гады няўвагі заняпаў.

Журналісты з іншых беларускіх мясцін уражаныя ўбачаным у Крычаве. Найбольш іх здзівіў стары цэментны завод. Паводле журналістаў, гаварыць пра экалагічную бяспеку на ім не выпадае. Зміцер Лупач з Глыбокага адзначае, што ў іх на Віцебшчыне няма цэмзаводаў, і дыхаць у Крычаве яму цяжка:

«Як дыхаецца, то адразу адчуваецца пыл. З заводу пастаянна ідзе выкід пары і разам з ёю — шкодных выкідаў. І відаць, што гэта дужа шкодна для навакольнага асяроддзя і людзей, якія блізка пражываюць».

Журналістаў здзівіў і незвычайны налёт на дахах прыватных дамоў ля заводу. За шмат гадоў на дахах утварыўся немалы закалянелы пласт выкідаў. Мясцовыя жыхары на гэта ўжо не звяртаюць асабліва ўвагі, як і на паветра з пылам.









# НА НАРКАЛАГІЧНЫМ УЛІКУ — ДЗЯСЯТКІ ТЫСЯЧ ЖЫХАРОЎ МАГІЛЁЎШЧЫНЫ

***БелаПАН інфармуе, што ў Магілёўскай вобласці на дыспансерным уліку ў нарколагаў стаіць больш за 31 тыс. пацыентаў. Аб гэтым паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Магілёве ўрач-псіхіятр-нарколаг Андрэй Чараднічэнка.***

16 верасня ў Магілёве прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная пачатку ініцыяванай МУС рэспубліканскай акцыі «Стоп насілле» па прафілактыцы і прадухіленні насілля ў сям'і.

Колькасць грамадзян, якія стаяць на дыспансерным уліку, — больш за 31 тыс. чалавек, на працягу апошніх гадоў застаецца практычна нязменнай, адзначыў Чараднічэнка. Паводле яго слоў, 7 тыс. з іх — жанчыны, а прыкладна 1.050 — непаўналетнія.

Урач сцвярджае, што з гэтых грамадзян больш за 22 тысячы чалавек маюць сіндром залежнасці ад алкаголю або хранічнага алкагалізму. У асноўным гэта людзі сярэдняга і старэйшага ўзросту.

# У РУМЫНІІ СУДЗЯЦЬ ТУРЭМШЧЫКА ЧАСОЎ КАМУНІЗМУ

У Румыніі пачынаецца першы ў гісторыі краіны суд над камендантам турмы ў эпоху камунізму, якога вінавацяць у злачынствах супраць чалавечнасці. Вось што паведамляе аб гэтым Бі-Бі-Сі.

88-гадовы Аляксандру Вішынеску ўзначальваў турму ў горадзе Рымнікі-Сэрат на ўсходзе краіны з 1956 па 1963 гады. За гэты час не менш за 14 зняволеных загінулі пры загадкавых абставінах.

Як адзначаюць эксперты, суд у Бухарэсце стаў адным з нешматлікіх выпадкаў ва Усходняй Еўропе, калі камуністы прыцягваюцца да адказнасці па такіх абвінавачваннях. Сам Вішынеску адхіляе ўсе абвінавачванні, сцвярджаючы, што толькі выконваў загады.

# ЗВЯРНУЦЬ УВАГУ!!!

У інтэрнэце пачала дзейнічаць КЛІМАВІЦКАЯ СТАРОНКА, якую размясціла сацыяльная сетка Укантакце. Гэта — Суполка актуальных гарадскіх навін, Суполка тых, хто любіць родны горад Клімавічы. На старонцы шмат фатаграфій, навіны, падзеі, спасылкі на цікавыя сайты.

Далучайцеся, супрацоўнічайце, рэкамендуйце сваім знаёмым!

Адрас КЛІМАВІЦКАЙ СТАРОНКІ - vk.com/klimavichy

# ЯЗВИТЕЛЬНЫЕ И МУДРЫЕ ЦИТАТЫ МИХАИЛА ЖВАНЕЦКОГО



***Жванецкий — один из тех авторов, которым удается придать мысли лаконичную, саркастичную и абсолютно завершенную форму. А главное, в его зарисовках каждый узнает себя — хотя, возможно, нам этого и не очень хотелось бы.***

***AdMe.ru выбрал самые яркие высказывания и афоризмы любимого сатирика.***

***О жизни***

* В историю трудно войти, но легко вляпаться.
* Алкоголь в малых дозах безвреден в любом количестве.
* Всё идет хорошо, только мимо.
* Хочешь всего и сразу, а получаешь ничего и постепенно.
* Мудрость не всегда приходит с возрастом. Бывает, что возраст приходит один.
* Любого автомобиля хватит до конца жизни, если ездить достаточно лихо.

***О России***

* Когда чувствуется, что весь мир лжет? Когда тебе в самолете объявляют, что разница во времени между Москвой и Нью-Йорком всего 8 часов.
* У нас чего только может не быть. У нас всего может не быть. У нас чего только ни захочешь, того может и не быть.
* Нас никому не сбить с пути, нам всё равно, куда идти.

***О человеке***

* Вы видели человека, который никогда не врет? Его трудно увидеть, его же все избегают.
* Труднее всего человеку дается то, что дается не ему.
* Люди делятся на тех, на кого можно положиться и на тех, на кого нужно положить.
* Каждый человек — кузнец своего счастья и наковальня чужого.

## *ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: КНІГІ, ГАЗЕТЫ, ЧАСОПІСЫ, АЎДЫЁ, ВІДЭА*

Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, часопісы, аўдыё і відэа. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012, 2013 і 2014 гг.



kamunikat
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*